


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

9 сакавіка 2001 года
№ 10 (307)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Жанчыны адродзяць Нарачанскі край

**МЯДЗЕЛ.** У раёне створана грамадскае аб'яднанне "Жанчыны – за адраджэнне Нарачанскага краю". Накіравана яго дзеянне на вырашэнне сацыяльных і экалагічных праблем. Плануюць жанчыны паспытаць свае сілы і ў малым бізнесе – прыкладам, адкрыць швейны цэх.

Цэнтр аб'яднання знаходзіцца ў вёсцы Камарова. Яго прэзідэнт – выкладчыца мясцовага сельскагаспадарчага ліцэя **Ала Вайцяховіч**. Ёсць прадстаўнікі аб'яднання і ў Мядзеле.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Прэміі за ахову працы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Гарвыканком прэміраваў дырэктараў 6 прадпрыемстваў за лепшыя паказчыкі па ахове працы.

Сярод прамысловых прадпрыемстваў перамог камбінат хлебапрадуктаў. Лепшым сярод будаўнічых арганізацый стаў "Адзелачнік-198". Таксама адзначылі кіраўнікоў хлебазавода, фабрыкі мастацкіх вырабаў, Будаўніка-169 і Спецбудмеханізацыі. Прэміі для "прызёраў" склалі ад 3,6 да 36 тысяч рублёў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Жанчына-старшыня калгаса

**ВАЛОЖЫН.** У сувязі з пераходам на работу ў райвыканком, пайшла на мінулым тыдні са сваёй пасады адзіная ў раёне жанчына-старшыня калгаса – **Рэгіна Пальчэўская**. Новым старшынёй калгаса "17 Верасня" стаў **Валерый Казыра**.

Перад гэтым гаспадарка бязвыплатна перадала ў Валожынскую школу-інтэрнат электрапліту і электрапатэльню. Цяпер былы старшыня калгаса працуе галоўным бухгалтарам упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Калі калгаснікі плачуць

**МЯДЗЕЛ.** У 28–гадовым узросце **Антон Стома** ўзначаліў калгас «Шлях да камунізму»(цэнтр – у вёсцы Занарач). І незменна кіраваў ім цэлых 37 год.

Увесь гэты час гаспадарка была на добрым ліку. Заставалася адной з лепшых на Мядзельшчыне і ў цяжкія апошнія гады: прыстойныя заробкі, добрыя ўмовы працы. Людзі плакалі, калі на справаздачным сходзе Антон Стома абвясціў, што час ужо і на адпачынак. Замяніць яго на пасадзе старшыні галоўны энергетык гэтага калгаса **Пётр Каўрус**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Самыя прыгожыя і модныя

**АСТРАВЕЦ.** У актавай зале СШ №2 прайшоў конкурс прыгажосці і моды сярод старшакласнікаў "Вясна–2001".

Мадэлі адзення стварылі самі старшакласніцы пад кіраўніцтвам настаўніц працы. Асабліва арыгінальныя мадэлі прадстаўляліся ў адпаведным жанры. Паказвалі ўборы з фольгі, газетнай паперы, пенапласту і саломы.

Першай стала астравецкая СШ №2, другое падзялілі першая школа райцэнтра і Рытаньская СШ. Трэцяе месца заняла Гудагайская СШ.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ, Насця ГЛАЗКО.**

### Вілейскія прадукты ў Маскве

**ВІЛЕЙКА.** Двума дыпломамі адзначылі прадукты Вілейскага гармалзавода на трэцяй міжнароднай спецыялізаванай выстаўцы "Малочная справа-2001", што прайшла ў Маскве.

У намінацыі "Сыры сметанковыя" вілейскі сыр атрымаў дыплом I ступені, а ёгурты зарабілі ў аднайменай намінацыі дыплом II ступені.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 10 сакавіка

**Мінск**
0 – -4°С (уначы)
2 – 5°С (удзень)



**Вільня**
-4°С (уначы)
9°С (удзень)



Нядзеля, 11 сакавіка

**Мінск**
0 – -2°С (уначы)
2 – 6°С (удзень)



**Вільня**
2°С (уначы)
6°С (удзень)



# Са святам 8 сакавіка!

*Няхай на вуліцы яшчэ рыпіць пад нагамі снег, раніцой кусаецца мароз – прыход сонца непазбежны. Трэба проста ў яго верыць. Няхай непазбежнымі для кожнай жанчыны будуць каханне, шчасце, цяпло. З надыходам вясны, любімыя нашы жанчыны!*



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА

Святлана Давыдава на маладзечанскім гарадскім конкурсе цырульнікаў заняла 1-е месца ў намінацыі "Мужчынскія прычоскі".

## Экспрэс–апытанне маладзечанцаў

# 8 Сакавіка вачыма жанчын і мужчын

**Сённяшняе апытанне зробленае ў выглядзе жартоўнай дуэлі – ці супадаюць меркаванні жанчын і мужчын наконт падарункаў на 8 Сакавіка.**

**– Што вы хацелі б атрымаць у падарунак? – запыталіся мы ў жанчын.**



**Ірына Малашка, кандытар:**
– Можна пражыць і без кватэры ці шубы. Я хацела б з'ездзіць у кругасветнае падарожжа. Хацелася б паглядзець іншыя краіны, як там жывуць людзі.



**Вольга Бурачонак, кандытар:**
– Кветкі, можна ружы. Не адмовілася б і ад мільёна руж. Але хопіць і пяць.



**Ала Васілеўская, хімік-аналітык:**
– Прыгожы букет кветак. Дзень нараджэння ў мяне зімой, таму я іх рэдка бачу. І ўсмешку. А грошы – не галоўнае. Усё гэта – матэрыяльнае. Якія кветкі? Няма розніцы. Можна хрызантэмы, можна ружы.



**Ганна Грышкевіч, намеснік дырэктара:**
– Па-першае, каб прыехалі дзеці з Мінска, па-другое, каб яны прывезлі добрыя навіны, а па-трэцяе – хочацца пачуць прыемныя словы ад дзяцей і мужа.

**– Што вы хацелі б падарыць сваёй даме? – запыталіся мы ў мужчын.**



**Аляксандр Гулякоў, рабочы:**
– Жонцы – духі. Добрыя французскія духі. І, зразумела, кветкі. Без букецiка аніяк.



**Вадзім Савінка, кіраўнік гуртка:**
– Жонцы хачу падарыць ювелірнае ўпрыгожванне. На 8 Сакавіка арганізую сняданак у пасцель і букет кветак.



**Мікалай Хрэшчык, вядзе судамадэльны гурток:**
– Падарыў бы каханай камп'ютэр. Хаця, хутчэй за ўсё, жонцы і дачцэ давядзецца абысціся гваздзікамі. Будуць, напэўна, і шампанскае з торцікам.



**Дзмітрый Ведзень, інжынер:**
– Кветкі – гэта адназначна. Якія? Першыя вясеннія цюльпаны – на тое яна і вясна. І яшчэ што-небудзь незвычайнае. Прыкладам, сумесны паход са сваёй дзяўчынай на канцэрт Scorpions.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Яўген СТЭЛЬМАХ (фота).**

■ ЗДЫМАК З АЛЬБОМА

# Якія яны маладыя ды прыгожыя

**На гэтым здымку ўперадзе сядзяць Васіліна Шурпік з Брусоў і Лена Камсюк з Лыжычаў. Стаяць за імі (злева направа) Аня Уліцкая з Язджэнцаў, Надзя Куцкевіч з Азарак, Аня Лапцік з Сіманаў, Надзя Брэская з Лыжычаў. Іх маладыя жыцці абарваліся 14 чэрвеня 1944 года ў нямецкім горадзе Гамбург.**



Дзяўчат захопнікі вывезлі ў Германію і прымусілі працаваць на радыёзаводзе. Нялёгка ім гэта было, нездарма Надзя Брэская пісала ў Лыжычы: "Успамінай мяне ў краі родным, дарагая мама".

Англійская авіяцыя бамбіла нямецкія заводы, гарады. Адна з авіябомбаў трапіла ў сховішча, дзе хаваліся ад налёту авіяцыі нявольніцы. Ад бамбасховішча нічога не засталося. Толькі дзве дзяўчыны ўцалелі, а астатнія (сто пяцьдзесят) загінулі ад асколкаў, пад цяжарам бетонных перакрыццяў. На тым заводзе працавалі дзяўчаты з Беларусі, Расіі, Украіны.

Юным вязнем у той час быў Віктар Камсюк з вёскі Лыжычы. Працаваў не на заводзе разам з дзяўчатамі з Мядзельшчыны, а на заводзе па ўтылізацыі смецця. Пасля разбурэння авіябомбай сховішча пабываў на жахлівым месцы і сёння не можа спакойна ўспамінаць убачанае.

Сённяшняя жыхарка вёскі Варанцы Паўліна Кавалёва (у замужжы Варанец) працавала на тым заводзе, але яе перад той жахлівай бамбардзіроўкай накіравалі ў канцлагер разам з прадаўцом магазіна (немкай) за тое, што тая дала дзяўчыне хлеба.

У чужой старонцы, у сырой зямельцы ляжаць нашыя зямлячкі. Віной усяму гэтаму вайна і тыя, хто іх, войны, развязвае, кваліцца на суседнія землі, робіць людзей нявольнікамі.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ, курортны пасёлак Нарач.**

■ БУДАЎНІЦТВА КУЛЬТУРЫ

# Рэканструкцыя Дома культуры фінансуецца ледзь-ледзь



**А мо, лепш было адразу пад бульдозер?** Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**МАЛАДЗЕЧНА. 47,7 мільёнаў асвоена на будоўлі Дома культуры за люты. Графік фінансавання не вытрымліваецца.**

МАЛАДЗЕЧНА. Прараб будоўлі **Іван Русак** гаворыць, што ААТ "Будаўнік-169" за свае грошы закупіла большую частку цэглы і бетон. Своечасова не разлічыўся і цэнтр занятасці, таму іх людзі не атрымалі зарплату. Намеснік дырэктара цэнтра занятасці **Тацціяна Мучынская** сказала, што фінансаванне іх часткі ідзе з рэспубліканскага бюджэту. Плацёжнае даручэнне цэнтр занятасці падрыхтаваў 12 лютага. Раз грошы не пералічылі, то свабодных сродкаў у бюджэце няма.

За люты ўзвялі 96 кубаметраў новых сцен, разбурылі 126 кубаметраў старых і зманціравалі 8,8 тон металаканструкцый. Іван Русак лічыць, што пры такім фінансаванні грошай хопіць на месяц работ.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Пытанне да юрыста

*Што рабіць, калі органы ўлады (у тым ліку, пракуратура і гарвыканком) адмаўляюць грамадзянам у рэгістрацыі заяў альбо ўвогуле не прымаюць іх. Некаторыя ў такіх выпадках адпраўляюць заяву заказным пісьмом з паведамленнем аб атрыманні. Ці правільна яны робяць?*

**На пытанне адказвае юрыст Аляксей ХВОСЦІК:**

– Па сутнасці, правільна, але гэта ўжо на крайні выпадак. Бо існуе заканадаўчы акт, які абавязвае арганізацыі прымаць і рэгістраваць звароты грамадзянаў. Гэта Пастанова Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь №643 ад 01.10.1996 г. «Аб парадку вядзення справаводства па зваротах грамадзянаў». У ёй сказана:

«п.3. ч.1. Усе паступаючыя звароты грамадзянаў у арганізацыі павінны быць зарэгістраваныя ў дзень іх паступлення.

п.3, ч.3. Пры асабістым прыёме грамадзянаў іх вусныя і пісьмовыя звароты таксама падлягаюць рэгістрацыі ва ўстаноўленым парадку».

*Мілыя дамы,*
*ад шчырага сэрца віншуем вас*
*з Міжнародным жаночым днём 8-га сакавіка!*
*Жадаем Вам здароўя, дабрабыту,*
*поспехаў. Будзьце ж абаяльныя,*
*прыгожыя, ласкавыя і каханыя.*

**Маладзечанскае аддзяленне РГА БХК.**

**Адрасы і тэлефоны аддзялення і прадстаўніцтваў БХК:**

У Маладзечне:
вул. Прытыцкага, 18., тэл.: 7-48-09
(e-mail: bhc-molodechno@mail.ru).
У Вілейцы:
вул. 17 Верасня, 28-41, тэл.: 5-49-60.
У Мядзеле:
вул. 17 Верасня, 16-12, тэл.: 5-51-38.
У Смаргоні:
вул. Юбілейная, 9-20, тэл.: 3-27-88 (папярэдні запіс).
У Ашмянах:
вул. М. Горкага, 7, тэл.: 3-43-74.
У Астраўцы:
тэл.: 2-19-93 (папярэдні запіс).

Маладзечанскае аддзяленне РГА БХК шукае супрацоўніка з юрыдычнай адукацыяй для работы ў Валожыне. Тэл. для даведак у Маладзечне 7-48-09.

**Матэрыялы падрыхтаваныя Маладзечанскім аддзяленнем Рэспубліканскай грамадскай арганізацыі «Беларускі Хельсінкскі камітэт».**

■ СУВЯЗІ

# Сустрэча клубаў UNESCO

**МАЛАДЗЕЧНА. Клуб UNESCO "Планета" (працуе на базе Мінскага абласнога Цэнтра дзіцячай творчасці) правёў IV фестываль клубаў UNESCO і клубаў міжнароднай дружбы.**

Арганізацыйна-дзелавая гульня "Мадэліраванне і праектаванне", хіт-парад беларускіх песень, конкурснагульнявая праграма "Мая Беларусь", работа ў творчых майстэрнях – чатыры фестывальныя дні праляцелі, як адно імгненне.

Прэзідэнт РГА "Беларуская Асацыяцыя клубаў UNESCO" **Аляксандр Каранкевіч** прывез арганізатарам у падарунак камп'ютэр.

**Вольга КАШКЕЛЬ.**

■ 90 ГОД ТАМУ ПРА НАШ КРАЙ У "НАШАЙ НІВЕ"

**В. Заберэзь,** Ашмянск. пав. Віленскай губ. (каля м. Валожына). У нас адкрылі гаспадары вясковы свой банчык (крэдытнае таварыства). Усяго месяц, як аткрылі, а ўжо 125 хаўрусьнікаў, зь іх 95 неграматных, а 30 граматных. Што граматные сьветлые людзі цікавяцца справамі, то не дзіва, але хвала і неграматным, што ўзяліся за грамадзянскую працу.

**К.**

**В. Сычэвічы,** Радашкоўскай валасьці Вілейск. пав. Віл. губ. У нашых Сычэвічах развялося надта многа шыночкаў, зайдзіся ў кожную хату, дык пэўна, што знойдзем гарэлкі на чэлавек дзесяць, і п'юць яе ў нас, як ваду. Як толькі прыйдзе які прысьвятак, дык толькі і чеуш, што там пабіліся, або насы паразлуплівалі, і ўсё праз гарэлку. На Вадохрышчэ людзі сабраліся ў вечэр каля вучылішча, гэта не беда, але беда, што некаторыя з іх былі п'яные ды зрабілі скандал і зламалі музыканту скрыпку. П'яны чалавек горш за быдла. Музыкант жаліўся вураднiку. Вураднік прыехаў, зрабіў пратакол. Дык сычэўцы могуць пахваліцца Калядамі.

**Сьцёпка Бедны**
**20 Студня (Января) 1911 г., №3**

**Лебедзеўская воласць,** Віленская губ. Вілейскі павет. Памешчык К. хацеў пабудаваць для селянскіх дзяцей гаспадарскую школу. На гэта ён даў грошы і, апрача таго, атсек кавалак зямлі і даў патрэбны на гэта лес. Справа затрымывалася толькі за прыгаворам селян. Сабраліся селяне на сходку і сперша нехацелі, а пасьля згодзіліся зробіць аб гэтым прыгавор. Але зрабіўшы прыгавор грамадай пайшлі да памешчыка К. вымагаючы каб ён даў ім магарыч за тое, што яны згадзіліся на будоўлю школу. Гледзячы на гэта прыходзіш да перэкананьня, што народ наш як нялетняе дзіця, няўмее адрожніць правай рукі ад левай – не адрожнівае і (не) разумее, дзе яго карысьць, дзе шкода.

**Б.Ш.**
**27 Студня (Января) 1911 г., №4**

■ ДНІ

**11 сакавіка – 75 год з дня нараджэння (1926) В. Супруна,** беларускага гісторыка, краязнаўцы і археолага.

**14 сакавіка – 70 год з дня нараджэння** (1930) **П. Місько,** беларускага пісьменніка.

**15 сакавіка – Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.**

■ ІМЯНІНЫ

**9 сакавіка**
Праваслаўныя: **Івана.**
Каталіцкія: **Кацярыны, Францішкі, Дамініка.**

**10 сакавіка**
Праваслаўныя: **Тараса.**
Каталіцкія: **Марцэля, Цыпрыяна.**

**11 сакавіка**
Праваслаўныя: **Парфірыя, Севасцьяна.**
Каталіцкія: **Бенядзікта, Канстанціна.**

**12 сакавіка**
Праваслаўныя: **Пракопа, Ціта.**
Каталіцкія: **Алоіза, Бярнарда, Рыгора, Максіміліяна.**

**13 сакавіка**
Праваслаўныя: **Марыны, Васіля, Кіра, Мікалая, Несцера.**
Каталіцкія: **Бажэны, Хрысціны.**

**14 сакавіка**
Праваслаўныя: **Антаніны, Еўдакіі, Антона, Несцера.**
Каталіцкія: **Мацільды, Лазара, Лявона.**

**15 сакавіка**
Праваслаўныя: **Агафона, Арсення, Багдана, Фядота.**
Каталіцкія: **Клеменса, Людвіка.**

**Кінатэатр «Радзіма»**

**Вялікая зала, сакавік**

9–11 сакавіка – **Фестываль фестываляў "Усе адценні кахання"**

8 **"Марта сустракаецца з Фрэнкам, Дэніэлам і Лорэнсам"**, ЗША, раманатычная меладрама Рэжысёр Нік Хэм. У ролях: Моніка Потэр, Руфус Сэйуэл, Джозэф Файнс. Маладая, абаяльная амерыканка Марта, калі аказался ў Лондане, знаёміцца з трыма маладымі людзьмі. Кожны лічыць яе сваёй, а каго абярэ Марта? 15-00, 17-00, 19-00, 21-00

9 – 11 **"Тысяча акраў,** ЗША, драма Рэжысёр Джоселін Мурхауз. У ролях Мішэль Пфайфер, Джэсіка Ланж, Джэніфер Джэйсан Лі. Сваяцкія і пяшчотныя ўзаемаадносіны ператвараюцца ў адчужанасць і азлобленасць, калі людзі, звязаныя трывалымі вузамі сям'і, пачынаюць раздзел вялікай спадчыны. Карціна прызнаная адной з лепшых драм 1997 года. Намінавалася на атрыманне "Залатога глобуса". 15-00, 17-00, 19-00, 21-00

13 – 18 **"Таксі–2"**, ЗША, прэм'ера, камедыя 15-00, 17-00, 19-00, 21-00

**Для дзяцей**

8 – **"Зладзюжкі"** 12–00
9 – **"Бэйб–2"** 12–00
10 – **"Піраты ў часе"** 12–00
11 – **"Чароўная жалейка"** 12–00

# Навіны з кардона

**Гэтая інфармацыя будзе патрэбная тым, хто ўжо сабраўся ў дарогу ці яшчэ толькі збіраецца.**

### Віза

– першае, што патрэбна мець нашаму турысту, каб трапіць за мяжу.

На жаль, усяго некалькі краін па-ранейшым пускаюць да сябе без віз. Іх штампуюць проста на месцы прыбыцця (у аэрапорце, прыкладам). Без спецыяльнага дазволу можна дабрацца пакуль толькі да Турцыі, Егіпта, Кіпра, Польшчы і Венгрыі. Падкрэслім, пакуль.

Кошт жа візы розны: Вялікабрытанія – 54 долары ЗША (плюс транзітная шэнгенская 15 даляраў), Балгарыя – 53 долары, ЗША – 50 доляраў, віза ў 11 краін-удзельніц шэнгенскага пагаднення (у тым ліку, Германія, Францыя, Італія, Аўстрыя, Іспанія, Бельгія, Нідэрланды) каштуе 30 доляраў.

У Славакію віза падаражэла з 20 да 27 доляраў, у Чэхію аднаразовая дзелавая, турыстычная, гасцявая і транзітная візы, наадварот, сталі таннейшыя – з 59 да 10 доляраў, шматразовая віза з тэрмінам дзеяння да паўгода абыдзецца ў 45 доляраў, а віза з правам работы па найме – у 50 доляраў.

Турысту трэба ўлічваць, што шэнгенскія візы выдаюцца на тэрмін да 3 месяцаў. Для прабывання ў краіне на больш працяглы тэрмін кожная дзяржава выдае сваю нацыянальную візу.

У пасольства ЗША, Італіі, Вялікабрытаніі і Грэцыі патрабуецца асабістая яўка турыста за атрыманнем візы. З улікам каляпасольскіх страсцей і праблем з атрыманнем запаветнага дазволу(асабліва, маладымі дзяўчатамі), пасольства Італіі нават выступіла з заявай, што працуе без пасрэднікаў і просіць усіх зацікаўленых асоб звяртацца напрамую ў візавы аддзел.

Са спасылкай на нестабільнае становішча ў нашай краіне беларускім турыстычным фірмам адмоўлена ў адкрыцці турыстычных віз нашым грамадзянам у Швецыю. Спадзяемся, пакуль. Надзеі наведаць гэтую паўночную краіну застаюцца. Асабліва калі ўлічыць, што з вясны Швецыя, Фінляндыя, Нарвегія і Ісландыя далучаюцца да шэнгенскага пагаднення. Гэта прывядзе да спрашчэння працэсу атрымання візы і да змянення турыстычных маршрутаў – праз Фінляндыю і Швецыю можна будзе свабодна вандраваць па Еўропе, не клапоцячыся пра межы.



За мяжой беларусаў непазбежна чакае экзотыка. Нават такая.

Фота з архіва «РГ».

З 6 студзеня Літва змяніла правілы выдачы віз нашым грамадзянам. Цяпер дастаткова даказаць наяўнасць сродкаў для паездкі – мець дарожныя чэкі з разліку не менш за 40 доляраў на суткі прабывання ў Літве. Патаннеў у два разы кошт саміх віз – на тэрмін да 30 дзён каштуе цяпер 10, а шматразовая – 20 доляраў.

Набыць жа дарожныя або камерцыйныя чэкі можна практычна ў любым банку. Гэтае задавальненне абыдзецца ў 0,9-1% ад сумы, але мінімум у 5 доляраў. Прычым, чэкі можна выпісаць як у доларах, так і ў нямецкіх марках. Абмежаванні на куплянне – 500 мінімальных зарплат, на вываз абмежаванняў няма, але чэкі павінны быць упісаныя ў дэкларацыю.

У Германіі пры атрыманні наличнымі бяруць камісію ў памеры 20-30 марак. У шэрагу краін пры атрыманні сумы ў мясцовай валюце камісія наогул не бярэцца. Нескарыстаныя чэкі (яны сапраўдныя год) банкам прымаюцца назад без камісіі.

### Куды віза не патрэбная

У Егіпце проста ў аэрапорце збіраюць консульскі збор у памеры 15 доляраў ЗША, у Турцыі і на Кіпры – па 10 доляраў. Каб трапіць у Польшчу, патрэбны ваўчар. Яго можна набыць за 1000-1500 рублёў. Аднак палякі планавалі ўжо з 1 ліпеня 2001 года ўвесці візавы рэжым для беларусаў, хаця потым польскія дыпламаты паведамілі пра магчымы перанос тэрміну ўвядзення віз з разгару летняга сезона на восень.

З 1 мая плануе ўвесці візавы рэжым і Венгрыя. Так што тыя, хто жадае наведаць Будапешт і папіць такайскага віна, павінны паспяшацца. Цяпер туры ў Венгрыю ідуць у абход Польшчы і Славакіі праз Украіну з начлегам у Львове.

Аб праездзе і пакутах у аўтобусах на мытні ўсім усё вядома. Згодна з сумеснай пастановай Дзяржкамітэта пагранвойскаў і Дзяржаўнага мытнага камітэта аб парадку пропуску праз мяжу арганізаваных груп турыстаў, праходжанне пагранічнага і мытнага кантролю іншаземнымі турыстамі будзе адбывацца па-за чаргой проста ў аўтобусе без праходжання з рэчамі праз тэрмінал. Вызначана, што ўся працэдура павінна займаць не больш за 30 хвілін з моманту спынення аўтобуса ў пункце пропуску.

### Пра кошт праезду

З Маладзечна да Беластока па панядзелках, аўторках, серадах і пятніцах можна даехаць рэйсавым аўтобусам, адпраўленне ў 20–00. Аднак пра білеты трэба паклапаціцца наперад – можа не хапіць месцаў, а пры малым попыце рэйс могуць і адмяніць, як было ў адзін з нядаўніх аўторкаў. Білет у абодва бакі каштуе 14900 рублёў плюс кошт ваўчара і збор за экалогію на мяжы. Білет у адзін бок каштуе 13000 рублёў.

Хто не жадае трэсціся ўсю ноч у аўтобусе, да Беластока можа з Маладзечна даехаць і цягніком Санкт-Пецярбург–Варшава па панядзелках, серадах і пятніцах у 1-20 ночы. Абыдзецца гэта ў 4 долары і 12000 рублёў. Білеты можна купіць у міжнароднай касе на чыгуначным вакзале. Месцы ёсць амаль заўсёды.

Тым, хто жадае пабыць напачатку вясны ў Германіі (маскоўскім цягніком з Мінска да Берліна), гэтае задавальненне абыдзецца ў 35 доляраў і 18000 рублёў. Месцы на 28 лютага пакуль ёсць.

Напаследак пра бяспеку. Многія чулі пра барыкады, якімі пасажыры берлінскіх цягнікоў умацоўваюць дзверы сваіх купэ. Можа, з увядзеннем абавязковага суправаджэння цягнікоў спецыяльнай службай аховы гэтая праблема будзе знятая.

Большасць дзяржаў, у тым ліку, Польшча і іншыя краіны-суседзі, гарантуюць абарону ад незаконных пасягненняў усім, хто знаходзіцца на іх тэрыторыі, незалежна ад грамадзянства. У экстраннай сітуацыі вы можаце звярнуцца ў паліцыю або хуткую дапамогу. Аднак пры адсутнасці страхоўкі могуць узнікнуць праблемы з аплатай паслуг урачоў.

Тэлефон выкліку паліцыі Беластока – 997, тэлефон службы выратавання – 7422222. Пажадана, вядома, гаварыць па-польску.

**М. А.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 1 сакавіка | 7 сакавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1245,00 руб. | **1252,00** руб. |
| Нямецкая марка | 586,72 руб. | **592,48** руб. |
| Літ | 311,17 руб. | **312,93** руб. |
| Расійскі рубель | 43,50 руб. | **43,73** руб. |
| Злоты | 305,78 руб. | **312,96** руб. |
| ЕЎРА | 1147,52 руб. | **1158,79** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1260 – 1280 руб. | **1270 – 1290** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 28.02 | 7.03 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1700 | **1700** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6741 | **6490** |
| Сасіскі, 1 кг | 2100 | **2100** |
| Селядзец, 1 кг | 1300 | **1250** |
| Рыс, 1 кг | 470 | **470** |
| Грэчка, 1 кг | 450 | **470** |
| Цукар, 1 кг | 570 | **570** |
| Алей, 1 л | 670 | **670** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 650 | **630** |
| Маянэз, 200 г | 220 | **220** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1300 | **1400** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 420 | **380** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 350 | **370** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 170 | **180** |
| Капуста, 1 кг | 150 | **147** |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | **1260** |
| Апельсіны, 1 кг | 1000 | **1100** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 800 | **900** |
| Масла, 1 кг | 1800 | **1800** |
| Тварог, 1 кг | 800 | **850** |
| Малако, 1,5 л | 400 | **350** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 800 | **850** |
| Бульба, вялікае вядро | 850 | **900** |
| Морква, 1 кг | 300 | **350** |
| Яблыкі, 1 кг | 330 | **420** |

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

## Маладзечанскі рэкорд

| | Колькасць беспрацоўных на 1 сакавіка | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1501 (+93) чал. | 2,54% |
| Маладзечанскі раён | 259 (+7) чал. | 1,04% |
| Астравецкі раён | 354 (-1) чал. | 2,53% |
| Ашмянскі раён | 181 (-9) чал. | 0,97% |
| Валожынскі раён | 169 (-3) чал. | 0,88% |
| Вілейскі раён | 490 (+3) чал. | 1,54% |
| Мядзельскі раён | 256 (+19) чал. | 1,40% |
| Смаргонскі раён | 1150 (+51) чал. | 3,43% |
| **Усяго па рэгіёне** | **4360 (+160) чал.** | |

Традыцыйна ў дужках паказанае змяненне ў колькасці беспрацоўных у параўнанні з публікацыяй месячнай даўнасці.

У Маладзечне ўпершыню са снежня 1999 года, калі мы пачалі свае назіранні, зафіксаваная такая вялікая колькасць беспрацоўных.

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПАДАТКІ

## Хочуць спаць спакойна

МЯДЗЕЛ. Больш людзей у раёне запоўнілі дэкларацыю аб даходах - 540 фізічных асоб і прадпрымальнікаў (летась – 414).

Бюджэт папоўніўся амаль на 3 мільёны рублёў. Гэта ў 4 разы больш, чым у мінулым годзе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ПРЫЗНАЧЭННІ

## Новы кіраўнік райспажыўтаварыства

**ВІЛЕЙКА. У лютым мясцовае райспажыўтаварыства ўзначаліў Генадзь Касцевіч.**

Нарадзіўся ў Вілейскім раёне ў 1963 годзе. Па адукацыі інжынер-механік. Скончыў Беларускі Інстытут Механізацыі і Акадэмію кіравання пры БАТУ. Апошнія 2 гады кіраваў Вілейскім плодаагародніна-гандлем.

Былы старшыня праўлення райспажыўтаварыства **Мікалай Новік** за ўпушчэнні ў рабоце пераведзены намеснікам Генадзя Касцевіча па кадрах.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Злачыннасць змяншаецца

МЯДЗЕЛ. За два месяцы амаль у паўтара раза менш зафіксавана злачынстваў у раёне, чым за гэткі перыяд летась(было 53, цяпер – 37). З іх нераскрытымі засталіся толькі 5, і ўсе – крадзяжы асабістай маёмасці.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ПРАЦАЎЛАДКАВАННЕ І МОЛАДЗЬ

## Паклапаціцеся пра вакантнае месца

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэгіянальным цэнтры занятасці насельніцтва дзейнічае сістэма прафесійнага навучання ці пераанавучання па пэўнай спецыяльнасці. Галоўным "працаўладкавальнікам" моладзі тут з'яўляецца Аляксандр Розум.**

Звяртаюцца сюды, у асноўным, сацыяльна слабаабароненыя непаўналетнія – выпускнікі 9-х, 11-х класаў, што па нейкіх прычынах не паступілі ў ВНУ ці сярэднеспецыяльныя навучальныя ўстановы. Ёсць і маладыя людзі ва ўзросце ад 18 да 29 год. У гэтую катэгорыю ўваходзяць асобы, якія скончылі навучанне ў вышэйшых, сярэднеспецыяльных навучальных установах, аспірантуры.

Маладзечанскія навучальныя ўстановы прапануюць для іх розныя спецыяльнасці. Маладзечанскі гандлёва-эканамічны каледж, прыкладам, усяго за месяц зробіць з беспрацоўнага менеджэра-прадпрымальніка. Каб стаць камерцыйным агентам, прадаўцом альбо бухгалтарам, неабходна ўжо ад 2 да 4 месяцаў.

Вучэбна-курсавы камбінат "Надзея" за паўгода дасць жадаючым навыкі краўца (швачкай ці цырульнікам можна стаць за ўдвая меншы тэрмін).

Вучэбна–курсавы камбінат АПК "Маладзечанскі" трымае сваю спецыфіку ў падрыхтоўцы кадраў. Адсюль юнакі маюць шанцы выйсці трактарыстамі, газаэлектразваршчыкамі ці машыністамі кацельных установак.

Аўтавучкамбінат усяго за 1,5–3 месяцы падрыхтуе маладых вадзіцеляў катэгорыі "C", "D", "E".

Тэхнічнае вучылішча №87 аддае перавгу камп'ютэрным тэхналогіям – за 1,5 месяца беспрацоўныя стануць апаратарамі ПЭВМ. Набытыя веды і практычныя навыкі могуць быць скарыстаныя нават у кіраўнічай дзейнасці.

ПТВ №135 штогод рыхтуе пекараў-кандытараў.

ПТВ №21 акцэнты ў падрыхтоўцы змяшчае на аддзелку памяшканняў. Адсюль выходзяць маляры-тынкоўшчыкі, сталяры-цясляры, муляры-мантажнікі, абліцоўшчыкі-плітачнікі (навучанне займае 4–6 месяцаў).

Заўважу, што прафесійная падрыхтоўка (і перападрыхтоўка) праводзіцца непасрэдна па тых прафесіях, што карыстаюцца попытам на рынку працы. Навучальныя цэнтры па накіраванні Маладзечанскага рэгіянальнага цэнтра занятасці насельніцтва робяць гэта бясплатна для навучэнцаў, за кошт сродкаў Дзяржаўнага фонду.

Аднак, зразумела, прадпрыемствы не гараць жаданнем афармляць на работу ўчарашніх беспрацоўных. Таму А. Розум дае параду: перад тым, як звяртацца ў цэнтр занятасці, паклапаціцеся, каб пасля заканчэння навучання вам было забяспечана вакантнае рабочае месца па той ці іншай спецыяльнасці. Іншымі словамі, вам дадуць вудачку, а ўжо рыбку лавіце самі.

**Юлія ШАВЫРА.**

■ ПРАФЕСІЯ – ВАЯВАЦЬ

# Муза салдата фартуны

**Як толькі не называюць людзей, якія ідуць ваяваць за грошы: наёмнікі, салдаты фартуны, дзікія гусі, ландскнехты... Усе яны зарабляюць грошы на вайне, але не ўсе ідуць на вайну дзеля грошай.**

Вайна – з'ява настолькі недарэчная, што на ёй аднолькава патрэбныя і снайпер, і ўрач. Пагадзіцеся, паміж гэтымі спецыялістамі ёсць прынцыповая розніца, адзін імкнецца забіць, другі – выратаваць. Таму іншы раз урачы ідуць на вайну дзеля таго, каб хутчэй набыць прафесійны досвед. Як каму, а ім у баявой абстаноўцы работы хапае. Дарэчы, адзін з такіх урачоў, Эдуард Кадомскі (па яго жаданні прозвішча зменена), сцвярджае, што на вайне чалавек прывыкае да рызыкі і стрэсаў гэтак сама, як прывыкаюць да тытуню альбо гарэлкі.

Мірнае жыццё многім здаецца прэсным і сумным. Каб пазбавіцца гэтага адчування, ветэраны пачынаюць шукаць выйсце. Адныя ідуць на работу, звязаную калі не з рызыкай, то з раз'ездамі. Іншыя з шалёнай хуткасцю ганяюць на матацыкле... А некаторыя вяртаюцца на вайну. На вялікі жаль, у наш час ёсць попыт на наёмных салдат.

Заключэнню Эдуарда варта верыць. Ён не толькі дасведчаны доктар, але і сам панюхаў пораху. У нядаўнім мінулым служыў маёрам медыцынскай служюы ў расійскай арміі, ваяваў на Каўказе. Быў урачом у складзе рэйдавай групы і паспытаў рызыкі не меней за іншых разведчыкаў.

Але яшчэ адзін наш зямляк, назавем яго Сяргеем Белым, лічыць такі аналіз доктарскімі выдумкамі. Ён грамадзянін Расіі, але вырас у адным з тых гарнізонаў, што і цяпер існуюць на нашай зямлі, і лічыць наш край саваёй радзімай. Таму, калі не бадзяецца па свеце, жыве тут. Яму па душы няспешны лад нашага жыцця, які дазваляе забыцца на розныя ўзрушэнні. А гэтага дабра ў жыцці Сяргея хапала.

Сын ваеннаслужачага, ён не змоладу нават – з дзяцінства займаўся ваеннай справай. Вучыўся ў суворaўскім вучылішчы, скончыў агульнавайсковае вучылішча, якое рыхтавала афіцэраў для марской пяхоты, але служыў у парашутна–дэсантных часцях. Колькі год ваяваў у Афганістане. Скончыў курсы "Выстрал", а пасля служыў у штабах рознага ўзроўню.

Сяргею была наканаваная зайздросная кар'ера, але нечакана для многіх ён звольніўся з былой Савецкай Арміі. Адбылося гэта незадоўга да пачатку грамадзянскай вайны ў Таджыкістане. Спецыяліст, забяспечаны інфармацыяй – а Сяргей служыў тады ў Таджыкістане – гэты канфлікт прадбачыў і не хацеў удзельнічаць у ім.

Але вайна яго не адпускала. У зоны ваенных канфліктаў Сяргей выязджаў некалькі разоў. І не з-за грошай, і, тым больш, не дзеля сумніўнай якасці рамантыкі.

Назапашаныя веды і досвед Сяргея спатрэбіліся б і ў мірным жыцці. Многае ў міжнародных адносінах ён разумее лепш за прафесійных палітолагаў і ўмее данесці сваё разуменне да іншых. Не ў апошнюю чаргу, дзякуючы таму, што сутнасць праблем ён вывучае не толькі ў бібліятэках, але і на месцы падзей. А дзеля гэтага апранае вайсковую уніформу.

Свой метад даследавання Сяргей даўно ўжо не лічыць бездакорным. Перад апошняй "камандзіроўкай", як ён называе свае выезды на вайну, Сяргей спрабаваў уладкавацца спецыяльным карэспандэнтам ад якога–небудзь органа масавай інфармацыі ў зоне канфлікту, які зацікавіў яго. Не атрымалася. І ён зноў наняўся "салдатам фартуны".

Гады бяруць сваё, і Сяргей, здаецца, супакоіўся. Альбо сабраў дастаткова матэрыялаў для кнігі, якую піша? Па яго словах, рукапіс яшчэ сыраваты, і ён паказвае яго толькі тым людзям, якія маюць магчымасць даць практычную параду. Вядома толькі, што гэта не нейкі там прыгодніцкі раман, а сур'ёзнае даследаванне. Пра яго змест можна меркаваць, зыходзячы са шматлікіх размоў аўтара з Сяргеем.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Гэтаму салдату, на шчасце, не трэба шукаць сваё шчасце ў «гарачых кропках».**

Стары ваяка перакананы: еўрапейцы недаацэньваюць пагрозу ісламскага радыкалізму (У ЗША, дарэчы, гэтую небяспеку зразумелі даўно; там не здзіўяцца, калі фанатык узарве сябе і тых, хто навокал, дзеля тэрарыстычных мэтаў – рэд.). А радыкалізм гэтага кшталту робіцца ўсё больш заўважным фактарам на міжнароднай арэне. У Афганістане войскі руху Талібан выйшлі на мяжу з Таджыкістанам. У самім Таджыкістане даўно ўжо ідзе партызанская вайна. Ды і па ўсёй Цэнтральнай Азіі актывізаваліся дзеянні баявых атрадаў ісламскіх экстрэмістаў. Дададзім Каўказ, дзе таксама вайна.

Усе гэтыя падзеі з'яўляюцца звёнамі аднаго ланцуга, перакананы Сяргей. І з гэтага ланцуга нельга выкідваць і Пакістан, дзе папулярнымі з'яўляюцца ідэі экспансіі ісламу. Якіх толькі дактрын не напладзілі тэарэтыкі: ад ідэі Вялікага Пакістана да ідэі Вялікага Халіфата. І не будзем забывацца, што Пакістан валодае ядзернай зброяй і нават не звязаны ўдзелам у міжнародных пагадненнях, якія закліканыя хоць у нейкай ступені забяспечыць ядзерную бяспеку.

За кожнай ідэалогіяй, звычайна, і матэрыяльныя рэсурсы, і матэрыяльныя інтарэсы. Ідэалогія ісламскага экстрэмізму не выключэнне. Нават прыватная асоба, міжнародны тэрарыст Бен Ладэн, мае багатыя фінансавыя магчымасці. А на тэрыторыях, якія знаходзяцца ў сферы інтарэсаў ісламскіх экстрэмістаў, адных толькі карысных выкапняў не лічана. Тут і золата, і уран, і алюміній. Не кажучы ўжо пра такі стратэгічны прадукт, як нафта.

Той, хто завалодае гэтымі рэсурсамі, атрымае не толькі багатыя прыбыткі, але і магчымасць дыктаваць свае ўмовы ў міжнароднай палітыцы. Ужо толькі з–за таго, што сучасная цывілізацыя поўнасцю залежыць ад паставак нафты. Як мы сёння бачым, нават маленькі збой у гэтай сістэме выклікае значныя ўзрушэнні сусветнага маштабу. І такое адбываецца не ўпершыню.

Аднак нельга лічыць, што ідэі ісламскага экстрэмізму запаланілі ісламскі свет. Свет гэты вялікі і шматмерны, а радыкалаў сярод мусульман не больш, чым сярод вернікаў, што прытрымліваюцца іншых рэлігійных поглядаў. Больш за тое, мусульман пагроза ісламскага экстрэмізму таксама непакоіць. І не толькі сярод свецкіх людзей, але і ў асяродку асоб духоўных. Дастаткова зазначыць, што Сусветны пацыфісцкі ордэн, які рашуча выступае супраць радыкалізму, у тым ліку, і ісламскага, дзейнічае ва ўсім свеце. Але сталася так, што прыхільнікі ідэй мусульманскага экстрэмізму атрымалі магчымасць для дзеянняў, і яны дзейнічаюць.

Здавалася б, падзеі ў Цэнтральнай Азіі не павінны нас асабліва клапаціць: жывем у цэнтры Еўропы. Але гэтая акалічнасць стварае толькі ілюзію бяспекі, сцвярджае Сяргей Белы. І згадвае некалькі падзей апошняга часу.

Нашы вайскоўцы бралі ўдзел у сумесных вучэннях войскаў супрацьпаветранай абароны некалькіх краін СНД. А спецыялісты не адзін раз, і нават у сродках масавай інфармацыі, зазначалі, што адна з тых задач, што былі адпрацаваныя на вучэннях, – супрацьдзеянне баявым лятальным апаратам, якія могуць узляцець з тэрыторый, падкантрольных ісламскім экстрэмістам.

І невыпадкова на гэтых вучэннях найлепш сябе паказалі прадстаўнікі супрацьпаветраных сіл Кіргізіі. Наўрад ці змаглі б у невялікай дзяржаве, якая толькі нядаўна займела свае ўзброеныя сілы, за кароткі тэрмін так вышкаліць сваіх ваеннаслужачых без дапамогі больш моцных суседзяў. А такая дапамога, відаць, была, бо праз тэрыторыю Кіргізіі пралягае адзін з самых небяспечных накірункаў магчымага ўдару.

Пойдзем далей, разважае Сяргей Белы. У Казахстане адбыліся каманднa–штабныя вучэнні, на якіх былі адпрацаваныя мерапрыемствы па забеспячэнні дэсантавання кантынгенту міратворчых сіл. Не выклікае сумненняў прычына правядзення такіх вучэнняў – актывізацыя баявых атрадаў ісламскіх экстрэмістаў у Цэнтральнай Азіі. У гэтых вучэннях бралі ўдзел ваенныя з розных дзяржаў, не толькі з дзяржаў–членаў СНД. У тым ліку, дарэчы, і ваенныя з Турцыі. А Турцыя, як вядома, населеная, пераважна, мусульманамі.

Параўнальна нядаўна расійскі баявы генерал Шаманаў на ўвесь свет абвясціў, што асноўная небяспека – ваенная небяспека – пагражае Расіі з поўдня. А небяспеку з боку НАТА, з якой у нас многія носяцца, нібы з пісанай торбай, перанес на другі план. Калі ўлічыць, што з Расіяй у нас нешта большае, чым дружба паміж суседзямі, нам таксама даводзіцца памятаць пра гэтую небяспеку. А маштабнасць пагрозы з боку ісламскіх экстрэмістаў добра разумеюць тыя, хто мае ўладу, лічыць Сяргей Белы. Павінны яе разумець і звычайныя людзі. Для гэтага ён і піша сваю кнігу. Але ці толькі дзеля збору матэрыялаў для гэтай кнігі ездзіў на вайну? Сяргей Белы прызнаецца: у большасці выпадкаў – не. Наадварот, ідэя напісаць кнігу з'явілася ў выніку гэтых паездак. Выходзіць, доктар Кадомскі ў чымсьці мае рацыю.

Увогуле, Сяргею Беламу пашанцавала. На тых дарогах, па якіх яму давялося прайсці, нямала нашых землякоў склала галовы. А нам пашанцавала ў тым, што на вайне ён не азвярэў, не страціў спагаду і ўменне клапаціцца пра блізкага. Ён такі, як і усе мы. Толькі выраз вачэй адрознівае яго ад іншых. Гэта вочы стомленага чалавека.

**Ян КЛАШАР.**

■ САЛДАЦКАЯ ПОШТА

## Вестачкі ад салдат, што служаць у Красным



**Старшы тэлефаніст, радавы Аляксей Карпіновіч, г. Маладзечна, вул. Ф. Скарыны, д. 39, кв. 79.**

– Усе амаль 8 месяцаў службы я тут. Задаволены. Пашанцавала, што трапіў сюды, а ўдвая – што на камутатар сувязі. Тут крыху лягчэй, зіма – у цяпле, няма вялікіх фізічных нагрузак. Працягваю завочную вучобу ў недзяржаўнай ВНУ.

Маці прыемна будзе прачытаць мае прывітанні праз "РГ" – газету, якую яна купляе.

Брату Андрэю: слухайся маці, дапамагай па гаспадарцы, паменей сыходзь па выхадных з дому.

Прывітанне дзяўчыне Аляксандры.

Віншую ўсіх са святам! Чакайце!



**Камандзір аддзялення, радавы Аляксандр Карповіч, г. Маладзечна, вул. Б. Хмяльніцкага, д. 38, кв. 46.**

– Нядаўна атрымаў званне малодшага сяржанта! У мае службовыя абавязкі ўваходзіць падтрыманне належнай дысцыпліны ў аддзяленні. Тут мяняецца ўяўленне пра жыццё: пачаў задумвацца пра будучае, з'явіліся некаторыя планы.

Армейская служба паўплывае на мае заняткі гарадкамі. Пасля двухмесячнага прастою заняў на чэмпіянаце краіны 5 месца, не трапіў у "троечку", як прывык.

Бацьку і брату Дзмітрыю: паўтара года хутка праляцяць, пасля арміі прыйду сапраўдным мужчынам. Дзіма, слухайся бацьку, замяняй мяне дома.

Дзяўчыне Васіліне: поспехаў ва ўчобе, здароўя, шчасця, не забывай, што ў цябе ёсць каханы!



**Старшы майстар, радавы Аляксандр Кісель, г. Маладзечна, 3–і Камунальны праезд, д. 11.**

– Прыходжу дамоў праз чатыры месяцы.

Прывітанне маці, дзяўчыне Алесі, дзядулі, бабулі і сябрам. Хацелася б, каб вы мяне цяплей сустрэлі.

Служба была карысная. Пасля арміі будзе што ўспомніць. Стык тысячагоддзяў сустрэў тут. Армія дае разнастайнасць у жыцці.

Сябру Вадзіму Валасковічу, што адначасова прызваўся са мной у Радашковічы: жадаю шчасліва даслужыць, хутка сустрэнемся!



**Вадзіцель, малодшы сяржант Аляксей Талянін, Маладзечанскі раён, в. Хоўхлава, зав. Лясны, д. 4.**

– Хачу павіншаваць сябе са сваім дваццацігоддзем, якое было нядаўна!

Бацькам перадаю прывітанне, служба ідзе нармальна. Служым разам са старэйшым братам Андрэем, яфрэйтарам (смяецца).

Прызыўнікам рэгіёна: калі будзе магчымасць, ідзіце служыць у Краснае.

Віншую з надыходзячым святам дзяўчыну Вольгу. Прывітанне ўсім, хто мяне ведае.

**Вестачкі ад салдат падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Выпускніцы Маладзечанскай ДЮСШ па плаванні падчас спаборніцтваў у басейне "Маладосць (злева направа): выкладчык плавання школы-інтэрната №1 Людміла Серыкава; майстар спорту СССР, чэмпіёнка Беларусі, сярэбраны прызёр этапа Кубка свету Святлана Бажко; майстар спорту РБ, член зборнай Беларусі, прызёр першынства СССР Людміла Крывецкая; майстар спорту СССР, неадназаровая чэмпіёнка Беларусі, прызёр чэмпіянату СССР Алена Руткоўская.**

■ **МІНІ-ФУТБОЛ**

# «Роля запаснога варатара»

**03.02 Металург-JP – ЦКК (Светлагорск) 7:3 (5:2)**

**Суддзі:** Ромін, Драбаха (абодва – Мінск).

**Галы:** Янель (3), Казяк (10), Снятко (11, 22), Кузняцоў (15, 16), Гарнастаеў (40); (6), (19), (30).

**Ход гульні:** 1:0, 1:1, 5:1, 5:2, 6:2, 6:3, 7:3.

**Склад:** Кіркіж; Кузняцоў, Сіткевіч, Снятко, Янель; Бароўскі, Гарнастаеў, Казяк, Складаноўскі, Шаўчэнка; Гружэўскі, Бахур.

На самым пачатку гульні **Аляксандр Сіткевіч** адабраў мяч у цэнтры поля ў двух сапернікаў і адпасаваў **Дзмітрыю Янелю**, які знаходзіўся сам-насам з галкіперам і дакладна нізам прабіў у блізкі кут. Хутка ЦКК адыграўся: непрыкрыты Сіткевічам футбаліст гасцей у адзін дотык расстраляў **Ігара Кіркіжа**.

А праз хвіліну надарыўся эпізод, які значна паўплываў на гульню. Пасля серыі рыкашэтаў перад варотамі светлагорцаў Янель злёту моцна ўдарыў па мячы, які ў выніку трапіў у галаву галкіперу. "Брамкаж" вярнуўся ў гульню толькі пасля перапынку, а месца ў "рамцы" з-за адсутнасці запаснога варатара заняў палявы гулец. Моцныя ўдары **Андрэя Гарнастаева**, Сіткевіча, Янеля, **Сяргея Кузняцова** ён адбіваў перад сабою, і ўжо на дабіванні праявлялі ўвішнасць **Віталь Казяк**, **Аляксандр Снятко** і той жа Кузняцоў. Дарэчы, гол на 16-й хвіліне, магчыма, забіў і не ён, а ўнёс у свае вароты абаронца. Перад перапынкам некалькі разоў "варатар" гасцей падключаўся да атак, адна з якіх стала галявой.

Шосты гол маладзечанцы забілі тым жа чынам: удар (Сіткевіч) і дабіванне (Снятко), а сёмы – на апошняй хвіліне, калі ўрэшце пакаралі светлагорцаў за пакінутыя пустымі вароты (Гарнастаеў).

Большую частку другога тайма ішла нейкая непісьменная, не надта разважлівая гульня з абодвух бакоў, падчас якой гасцям удалося забіць іх трэці гол. Некалькі разоў выратоўваў "Металург-JP" Кіркіж, што не ўдавалася яму падчас узяццяў варот.

Віцязь – Верас 4:9, Энергетык – Белаўтасервіс 6:5, МАПІД – Дарожнік 2:2, РТІ– Гарняк 4:3, МЭСР – БДПА 3:5, Сімург – Хемікс 4:1.

**Бамбардзіры:** Лагутка (Белаўтасервіс) – 43; Дзядзюля (Дарожнік) – 38; Бічанкоў (ЦКК), **Янель** – па 23.

У чарговым туры навапалачане сенсацыйна саступілі суседзям-аршанцам (магчыма, для "Белаўтасервіса" гэта пакаранне за несправядлівую перамогу над маладзечанцамі?), а "Дарожнік" аддаў ачкі МАПІДу. Да лёсавырашальнай гульні супраць "Сімурга" "Металургу-JP" трэба правесці чатыры сустрэчы з сераднякамі, прычым тры з іх дома. Бліскучы шанс не губляць ачкоў у той час як гэта не атрымліваецца ў канкурэнтаў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дарожнік | 18 | 13 | 2 | 3 | 91-52 | 41 |
| 2. Сімург | 17 | 12 | 4 | 1 | 89-25 | 40 |
| 3. Белаўтасервіс | 18 | 12 | 4 | 2 | 100-59 | 40 |
| 4. Металург-JP | 18 | 12 | 4 | 2 | 75-43 | 40 |
| 5. Хемікс | 18 | 11 | 4 | 3 | 94-49 | 37 |
| 6. Верас | 18 | 9 | 4 | 5 | 94-76 | 31 |
| 7. МАПІД | 18 | 8 | 4 | 6 | 86-61 | 28 |
| 8. ЦКК | 18 | 6 | 4 | 8 | 72-62 | 22 |
| 9. Энергетык | 18 | 6 | 2 | 10 | 62-83 | 20 |
| 10. Гарняк | 17 | 6 | 1 | 10 | 82-113 | 19 |
| 11. МЭСР | 18 | 4 | 1 | 13 | 55-94 | 13 |
| 12. РТІ | 18 | 3 | 1 | 14 | 43-126 | 10 |
| 13. Віцязь | 18 | 2 | 2 | 14 | 57-114 | 8 |
| 14. БДПА | 18 | 2 | 1 | 15 | 67-110 | 7 |

■ **ФУТБОЛПРАГНОЗ**

**У чвэрцьфінальную стадыю выйшла 8 каманд.**

Склад груп:

Група "А"
1. Мілан-Я
2. Ньюкасл Юн.
3. Котбус Энергія
4. Ліналеум

Група "В"
1. Ювентус
2. Мідлсбро
3. Спартак
4. Унтэрхахінг

Каляндар гульняў

1 тур: 1–3; 2–4
2 тур: 1–4; 2–3
3 тур: 1–2; 3–4

Матчы гуляюцца ў 1 круг на нейтральным полі (пенальці тут няма).

У паўфінал выходзяць па 2 лепшыя каманды.

**Праграмы гульняў**

1 тур (14.03–19.03)
1. 16.03 Мюнхен-1860 – Баварыя
2. 16.03 Вердэр – Кайзерслаўтэрн
3. 16.03 Кёльн – Вольфсбург
4. 16.03 Унтэрхахінг – Штутгарт
5. 16.03 Энергія – Герта
6. 16.03 Барусія – Баер
7. 17.03 Бардо – ПСЖ
8. 17.03 Нант – Седан
9. 17.03 Сент-Эцьен – Бастыя
10. 17.03 Асер – Ліён

2 тур (15.03–19.03)
1. 17.03 Тулуза – Ліль
2. 17.03 Манака – Труа
3. 17.03 Генгам – Рэн
4. 17.03 Тарпеда (М) – Дынама (М)
5. 17.03 Анжы – Сатурн
6. 17.03 Сокал – Ротар
7. 17.03 ЦСКА – Кр. Саветаў
8. 17.03 Брэдфард – Манчэсцер С.
9. 17.03 Чэлсі – Сандэрленд
10. 17.03 Вест Хэм – Іпсвіч

3 тур (16.03–20.03)
1. 18.03 Эспаньёл – Вальядалід
2. 18.03 Сельта – Валенсія
3. 18.03 Мальёрка – Рэал (М)
4. 18.03 Асасуна – Малага
5. 18.03 Рэал (С-С)– Алавес
6. 18.03 Нумансія – Барселона
7. 18.03 Брэшыа – Аталанта
8. 18.03 Лацыо – Ювентус
9. 18.03 Удзінэзе – Парма
10. 18.03 Напалі – Перуджа

Апошні тэрмін прыёму прагнозаў 13 сакавіка.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **МІЖСЕЗОННЕ**

**"Маладзечна" не паехала на турнір у Асіповічы, бо ад удзелу ў ім адмовіліся іншыя каманды вышэйшай лігі. Тыдзень быў прысвечаны трэніровачнаму працэсу, а з наступнага каманда пачне часта гуляць кантрольныя матчы. Не выключана, што застануцца ў складзе Павел Шаўроў і Дзмітрый Мігас.**

Дубль у сераду на стадыёне СШ №5 збіраўся (на жаль, графік выхаду газеты не дазваляе паведаміць больш дакладна) гуляць супраць мінскага РІПА (гэтая каманда заяўляецца ў другую лігу, магчыма, за яе будуць выступаць **Сяргей Мандрык** і **Ягор Дзмітрачкоў**), а на суботу запланавалі прыняць "Арбіту" з той жа ДЗ.

"Забудова" гуляла на турніры ў Гродне на снезе.

01.02 Забудова – Нёман-Белкард (Гродна, Д1) 0:1 (0:1).

02.02 Забудова – ЗЛіН (Гомель, Д2) 0:4 (0:1).

03.02 Забудова – Нёман (Масты, Д2) 0:0.

05.02 Забудова – БАТЭ (Барысаў-Мінск, дубль) 3:4 (0:2).

**Галы:** 0:3, Мацюк, Булаты, Мацюк, 3:4.

06.02 Забудова – Ліда (Д2) 0:4 (0:1).

Набралі 1 ачко ў групавым турніры, а пасля матчаў за 5-8 месцы засталіся апошнімі. У арганізацыйным плане турнір быў не надта ўдалы.

**ЗМЯНЕННІ Ў СКЛАДЗЕ.** Няма ўжо **Яўгена Саваня** і **Вячаслава Пачабута**, затое прыйшлі варатар **Павел Мядзведзеў** і паўабаронца **Віталь Дзіковіч**, што нейкі час міжсезоння правялі ў "Смаргоні". Узмацнілі чысцінцаў і **Мікалай Татун**, які гуляў тут апошнія сезоны. Магчыма, для яго будзе больш карысці, калі застанецца на ўзроўні другой лігі, а не пяройдзе ў дубль "Маладзечна".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ **МІНІ-ФУТБОЛ**

МАЛАДЗЕЧНА. Адбыліся матчы занальнага турніру чэмпіянату вобласці.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. ЗМК (Маладзечна) | ## | 4:4 | 6:5 | 6:4 | 9:2 | 25-15 | 10 |
| 2. Кірмаш (Маладзечна) | 4:4 | ## | 4:3 | 4:3 | 9:3 | 21-13 | 10 |
| 3. Мар'іна Горка | 5:6 | 3:4 | ## | 2:3 | 8:3 | 18-16 | 3 |
| 4. Вілейка | 4:6 | 3:4 | 3:2 | ## | 3:4 | 13-16 | 3 |
| 5. Заслаўе | 2:9 | 3:9 | 3:8 | 4:3 | ## | 12-29 | 3 |

У апошнім туры маладзечанцы сустракаліся паміж сабою. Завадчанаў, каб захаваць першае месца, задавальняла нічыя. "Кірмашаўцы" пры такім зыходзе атрымлівалі права таксама выйсці ў фінальны турнір, бо гэтае дадатковае ачко давала перавагу над іншымі камандамі, што занялі ў сваіх "зонах" другія месцы. Вынік атрымаўся аптымальны.

Лідэрамі сваіх калектываў былі **Ігар Якаўлеў**, **Вячаслаў Ваўчок**, **Аляксандр Ярашэвіч**, **Сяргей Капцюх** (усе – ЗМК), **Сяргей Івашкевіч**, **Сяргей Рысік** (абодва – "Кірмаш"). Рыхтавалі каманды да матчаў **Уладзімір Жукоўскі** (ЗМК) і **Анатоль Ішчанка** ("Кірмаш").

Фінальны турнір пройдзе таксама ў Маладзечне 16-18 сакавіка. У госці да двух мясцовых калектываў прыедуць прадстаўнікі Нясвіжа, Слуцка, "Медпрэпаратаў" (Барысаў) і "Мелькамбіната" (Барысаўскі раён).

■ **БАРАЦЬБА ГРЭКА-РЫМСКАЯ**

**ЧЫСЦЬ. У дзесяты, юбілейны раз сабраліся юныя барцы на турнір памяці воіна-афганца Сяргея Новікава. 194 хлопцы змагаліся ў чатырох узроставых групах, у суме складышы 21 вагавую катэгорыю. Былі прадстаўнікі ДЮСШ з Маладзечанскага раёна (вядомыя чысцінцам), горада Маладзечна і трох мінскіх, сярод якіх вельмі моцная СДЮШАР-7.**

З прадстаўнікоў нашага рэгіёна перамагалі чысцінцы **Руслан Шупіловіч** (група 1989-91 года нараджэння, 38 кг), **Аляксандр Хмяленка** (1986-88, 32 кг), **Дзяніс Кушнярук** (1984-85, 70 кг), **Сяргей Козак** (1980-83, 63 кг), маладзечанцы **Дзмітрый Хоміч** (1989-91, 29 кг), **Віктар Хоміч** (1989-91, 32 кг), **Давід Стадуб** (1989-91, 35 кг), **Аляксандр Амілаўскі** (1986-88, 35 кг), **Артур Ерамян** (1986-88, 42 кг), **Аляксандр Забагонскі** (1986-88, 47 кг), **Руслан Сільвановіч** (1986-88, 59 кг).

Іх трэнеры: **Сяргей Сафронаў**, **Сяргей Козак**, **Дзмітрый Дзёмін** (усе – Чысць), **Антон** і **Дзяніс** (бацька і сын) **Найлаўцы**, **Аляксандр Майсяёнак** (яму напярэдадні Дня абаронцы Айчыны ўручылі памятны прыз як былому вязню нямецкіх канцлагераў), **Мікалай Багданёнак**, **Сяргей Валасковіч** (усе – Маладзечна).

Значна дапамаглі ў правядзенні турніра яго традыцыйныя фундатары: райвыканком (аддзелы па ФКСіТ, адукацыі і па справах моладзі) ды чысцінская ЖКГ. Спецыяльны ліст у райвыканком з просьбай пра падтрымку турніру даслаў славуты беларускі барэц (на спартыўнай старонцы не хопіць месца, каб пералічыць яго спартыўныя і грамадскія рэгаліі), трохразовы алімпійскі чэмпіён **Аляксандр Мядзведзь**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **АВІЯМАДЭЛЬНЫ СПОРТ**

**МІНСК. Адкрытыя Рэспубліканскія спаборніцтвы ў класе мадэляў F-2D "паветраны бой". Удзельнічалі спартсмены з Беларусі, Расіі, Украіны і краін Балтыі.**

Дзве каманды Цэнтра пазашкольнай работы з Маладзечна (трэнеры – Андрэй Багародзецкі і Вадзім Савінка, члены каманды Дзмітрый Яцына – СШ №4, Ігар Судніковіч і Валерый Чарнецкі – абодва СШ №2) сярод 24 удзельнікаў занялі 12 і 13 месцы.

**Павел ДАНКЕВІЧ.**

■ **ДЗЮДО**

**МАЛАДЗЕЧНА. Ідзе адбор кандыдатаў у зборную краіны сярод кадэтаў (1984 году нараджэння і маладзей), якая выступіць на чэмпіянаце Еўропы ў Іспаніі. У рамках Алімпійскіх дзён моладзі Беларусі напярэдадні сакавіка адбудуцца рэспубліканскія спаборніцтвы.**

Ім папярэднічалі абласныя. На Міншчыне прадстаўнікоў дзевяці вагавых катэгорыяў прымала Маладзечна. Зборная горада заняла першае агульнакамандае месца, а ў сваіх катэгорыях перамаглі **Аляксандр Мойса** (да 60 кг), **Максім Хітрык** (да 90 кг) і **Антон Заяпчкоўскі** (абсалютная). Трэніруе хлопцаў, як і ўсю зборную горада, **Вячаслаў Дзеравянка**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **ПЛАВАННЕ**

МАЛАДЗЕЧНА. Гарадскі басейн "Маладосць" запрашае дзяцей і дарослых у групы аздараўленчага плавання (у дзённы і вячэрні час).

Т. у Маладзечне 53034, 53134, 54406.

## На гэтым тыдні гуляюць

**10.03. Спартзала ЗМК. 14-00. Металург-JP – РТІ (Мінск)**

+3=0-0 31-4. У першым крузе 5:2 (Кузняцоў – 2; Гружэўскі, Сіткевіч, Шаўчэнка) на выездзе.

**10-11.03. Спартзала ЗМК. Фінальны турнір чэмпіянату Мінскай вобласці сярод ветэранаў па міні-футболе.**

Удзельнічаюць каманды Маладзечна, Дзяржынска, Слуцка і Мар'інай Горкі.

